# БЕЛАРУСКІ СЬПЕЎНІК

## З НОТАМІ.

### ВЫПУСК I.



ВІЛЬНЯ — 1929 г.
Выданьне Беларускага Выдавецкага Т-ва.

Друк. „POGOŃ-PAX", Сьв.-Ігнатаўская в. 5. № 159.

# ЗЬМЕСТ.

# БЕЛАРУСКІ СЬПЕЎНІК

## З НОТАМІ.

ВЫПУСК І.



ВІЛЬНЯ — 1929 г.
Выданьне Беларускага Выдавецкага Т-ва.

Друк. „POGOŃ-PAX“, Сьв.-Ігнатаўская в. 5. № 159.



Гэй, родныя песьні! Вы ў суме і горы,
Ці ночка пануе, ці сівер дзьме зімны,—
Для роднай зямелькі вы сьветлыя зоры,
Для роднага краю вы райскія гімны!

У вас адаб'ецца нядоля і доля,
Ўздыханьня, што ходзяць з сахою, з сякерай,
І холад і голад, няволя і воля,
І ў будучнасьць ясну надзея і вера.

*Янка Купала.*

# „Не пагаснуць зоркі ў небе".

*Словы Янкі Купалы.*
*Мэлёдыя Янчука.*
*Гарм. А. Грыневіча.*

*Урачыста, паходна.*

Д. А.

Т.

Не па- гас- нуць зор-кі ў не- бе, по - кі не - ба бу-

дзе, не за - гі - не край за-бра -ны, по- кі бу- дуць лю-

дзі. Не за гі - не край - за-бра-ны, по - кі бу - дуць лю-










2) Ночка цёмная на сьвеце
Вечна не пануе;
Зерня, кінутае ў ніву,
Ўсходзе, ды красуе. } 2 разы.

Зацьвіце наш край, як сонца
Посьле непагоды,
Ў роўнай сіле, ў роўным стане
Між ўсіх народаў. } 2 разы.

3) Наша зерня—нашы думкі—
Не загінуць сьвету,—
Бліснуць краскай непаблеклай
Вечных агняцьветаў. } 2 разы.

З добрых думак, што мы кінем
На сваім дзірване,
Будзе ўнукам нашым жніва
Доля, панаваньне. } 2 разы.

# Родны край.

*Словы Якуба Коласа.*

*Музыка В. М. Арлова.*










2) Гэтых гмахаў безгранічных,
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;

Дзе ў восень плачуць лозы,
Дзе ў вясну лугі цьвітуць,
І шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?.. } 2 разы

3) Брацьця мае, беларусы!
Ў страшнай кнізе людзкіх спраў
Мусіць сам Бог для пакусы
Гэты край наш адзначаў.

Тут схадзілісь ўсе плямёны
Спорку сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць } 2 разы

4) І самых нас ўзяць ў няволю,
Путы зьдзеку налажыць,
Кінуць ў цяжкую патолю,
Аб нас памяць ўсю замыць.

І на нашых станавішчах
Білісь Польшча і Літва,
Каб на гэтых пажарышчах
Ўзмацавалася Масква... } 2 разы

5) Эх, чаго нам ня прышлося,
Брацьця мілыя, ужыць!
Колькі талентаў зьвялося
Колькі іх і дзе ляжыць!

Дык хіба-ж мы праў ня маем,
Сілы — шлях свой адзначаць,
І сваім уласным краем
Край наш родны называць? } 2 разы

---



# Лявоніха.

*Гар. М. Равенскага.*

Д. А.

А Ля - во - ні - ху Ля - вон па - лю - біў, Ля - во - ні - се

Т. Б.







2) А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў,
Лявоніха—душа ласкавая,
Чаравічкамі палясківала.

3) Як я молада ў матулькі жыла,
Як вішанька у садочку цьвіла;
Цьвіла, цьвіла, ды пацьвітавала,
З малайцамі ды погулівала.

4) Наехалі поўны дом наш казакоў
Ды забралі майго мужа ў палон,
Ды ня шкода, што яго ды забралі,
Толькі шкода, што ня моцна зьвязалі.

Ён паганец уцячэць ды ўцячэць,
Мне галоўку маю бедну патаўчэць;
Трэба будзе сьцерагчыся—уцякаць,
З вераб'ямі пад страхою начаваць.

# „Ах, ты Неман-рака".

*Словы Цішкі Гартнага.*

*Гармонізацыя А. Стэповіча.*

*Паволі.*

А. Д.

Т. Б.

Ах, ты, Нё-ман-ра-ка, Ці ты ду-маў, ці сьніў, як сьля-зу му-жы-ка ў сва-е во-ды ла-віў? Як сьля-зу му-жы-ка ў сва-е во-ды ла-віў?

2) Як стаяў над табой
Сын нядолі худы
І над цёмнай вадой
Пяяў песьні нуды — } 2 разы.

3) Што надыйдзе пара,
Зьнемажэньне міне,
Адраджэньня зара
Над народам блісьне } 2 разы.

4) І з балючых грудзей
Беларусі дзяцей
Над табой загудзе
Песьня вольных людзей? } 2 разы.

---

# „Жыў на сьвеце Лявон“.

*Словы Янкі Купалы.*
*Гармонізацыя Тэраўскага.*

*Адзін з хорам.*

Б.



Жыў на сьве - це Ля-вон, мо-лад, ду-жы быў ён, толь-кі

з во-ляй і до-ляй ня ба-чыў-ся. Сон-ны сэр - цам, ду-шой дра-маў

ў ха-це кры-вой, а вы-хо-дзіў, сьля-за-мі сьлед зна-чыў-ся.

*Хор.*

Д. А.

Сон-ны сэр-цам, ду - шой дра-маў ў ха - це кры-

Т. Б.




2) Аж вось чуе Лявон
З усіх клікі старон,
Што ён, дурань, жыве па быдлячаму.
Дый сам тут зразумеў,
Што дум сьветлых ня меў,
Што падобен быў дрэву хадзячаму. } 2 разы.

3) Зварухнуўся Лявон,
Як вада, як агонь,
Пазнаў сілу ў сабе нябывалую;
Ўжо бяда — не бяда,
Ўжо нуда-ня нуда,
Запеў песьні свае разудалыя. } 2 разы

4) Зямля стогне, дрыжыць,
Як пяе, як крычыць,
Як прасьвету сабе дамагаецца,
Аж ад песень такіх
Страх напаў на другіх,
І вось чорная моц падымаецца. } 2 разы

5) І пашло ўсё ўверх дном,
Сьвісты, енкі кругом,
Груганы на дабычу зьлятаюцца:
Шчасьця даць бедаку
Ня ўсім шло на руку, —
Ня ў руку, што Лявон прачыхаецца. } 2 разы

6) Дарма сілен Лявон
І адважны так ён —
На падмогу дарма ён надзеецца:
Галаву ён сваю
Даў за праўду ў баю
Толькі памятка — насып віднеецца } 2 разы

7) Ляжыць, дрэмле Лявон,
На грудзёх вырас клён.
Калі-ж вецер па сьвеце расходзіцца — } 2 разы.

Шуміць шумна той клён,
Яшчэ ўстане Лявон...
Гэй Лявоны у нас не пазводзяцца! } 2 разы.

---

# Мы пайшлі ўжо ваяваць.

*Словы Янкі Купалы.*
*Гармонізацыя Тэраўскага.*







2) Што за доля, што за воля—
Беларусу выйсьці ў поле?
Сьвішча куля: й яйх-ха-ха!
Каля вуха дзяцюка. } 2 разы

3) Нам няўцям віхры, грымоты:
Дадае нам гром ахвоты:
Сьвішча куля... і г. д.

4) Днём ваюем, ночкай дрэмлем,
А што блізка вораг—кемім.
Сьвішча куля... і г. д.

5) Сьпім на ў зьмежку пад ігрушай
Дождык моча, сонца суша.
Сьвішча куля... і г. д.

6) Мы—ваякі, забіякі
Сьцеражэцеся, ламакі.
Сьвішча куля... і г. д.

7) Камандзер наш знае дзела,
Ён на ворага йдзе сьмела
Сьвішча куля... і г. д.

8) Паваюем, пагаруем,
Зато ўсюды запануем.
Сьвішча куля... і г. д.

9) Запануем, як і людзі,
У хату вораг лезьць ня будзе.
Сьвішча куля... і д. г.

---

## А ў бары, бары...

*Словы Ян. Купалы.*
*Паходная.* *Гарм. Тэраўскага.*

Д. або Т. I.

*mf*

А ў ба - ры, ба - ры тры да - ро - жань - кі.

Д. або Т. II.

*mf*

А. або Б.

Хор.

Д. А.

Гэй, гэй, гэй! тры да - ро - жань - кі.

Т.

Б.

2) К ім прыйшоў жаўнер
Наш прыгожанькі.
Гэй, гэй, гэй, наш прыгожанькі!

3) Стаў, глядзіць жаўнер,
Сумляваецца,
Гэй, гэй, гэй, сумляваецца!

4) Па якой пайсьці
Надумляецца.
Гэй, гэй, гэй, надумляецца!

5) Па аднэй пайсьці,
Не пашэньціцца —
Гэй, гэй, гэй, не пашэньціцца!

6) Завядзе на ўсход,
Скуль ня вернецца!
Гэй, гэй, гэй, скуль ня вернецца!

7) Па другой пайсьці —
Абняволіцца.
Гэй, гэй, гэй, абняволіцца!

8) Бо ў заходні бок
Шлях той коціцца.
Гэй, гэй, гэй, шлях той коціцца!

9) Выбіраў жаўнер
Трэцьцю сьцежаньку.
Гэй, гэй, гэй трэцьцю сьцежаньку!

10) Бо вяла яна
Ў родну межаньку
Гэй, гэй, гэй, ў родну межаньку!

11) І запеў жаўнер,
Той прыгожанькі:
Гэй, гэй, гэй, той прыгожанькі!

12) А ў бары, бары
Тры дарожанькі.
Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!

---

## Гарні, гарні бульбу...

*Народная.*

Д. А.

Т. Б.

Гар - ні, гар - ні, буль - бу з пе - чы, у тор - ба - ку

ды на пле - чы, гар - ні, гар - ні ды ня - сі,

толь - кі бо - лей не пра - сі. Тум, тум, тум, тум, ту - ту

тум, тум, тум, тум, тум, тум, ту - ту, тум, тум, тум ту - ту







2) Бульбу пякуць, бульбу вараць,
Бульбу ядуць, бульбу хваляць,
З бульбы мука, з бульбы каша,
Прападзі ты, доля наша.
Тум, тум, тум, ту, ту, тум...
і далей, як пад нотамі.

3) Хоць да полькі ногі тонкі,
Да кадрылі ногі крывы,
А як势 стануць ў дуду йграць,
Ног ня можна ўтрымаць.
Тум, тум, тум, ту, ту, тум... і д.

